# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1974
Кастрычнік-
Лістапад-
Сьнежань
Год XXII
№ 4 (142)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1974 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. F. Žurnia, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12, азначае North , а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXII October—November—December № 4 (142)**
**1974**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE.,
LONDON, N. 12, 8 HY., ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXII КАСТРЫЧНІК—ЛІСТАПАД—СЬНЕЖАНЬ № 4 (142)



СУПРАЦОЎНІКАМ ЧЫТАЧАМ НА ЧУЖЫНЕ І НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ
КАЛЯДНІЯ І НАВАГОДНІЯ ПРЫВІТАНЬНІ І ПАЖАДАНЬНІ.
ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ — ЯГО СЛАЎЦЕ.

# IV-ы Сусьветны Сынод Біскупаў

Найважнейшым здарэньнем апошняга часу ў жыцьці Царквы — спадзяёмся і сьвету — быў Сынод Біскупаў, які адбыўся ў Рыме у часе ад 27 верасьня да 27 кастрычніка 1974 г. Папа назваў яго гістарычнай падзеяй. Тэмай Сыноду была эвангелізацыя сучаснага сьвету. У Сынодзе прыймалі удзел каля 200 Герархаў з розных краінаў. Ад Усходніх Цэркваў учаснічылі Патрыярхі і Вышэйшыя Архібіскупы, а ад Заходняй прадстаўнікі паасобных Біскупскіх Канфэрэнцыяў, кардыналы, якія стала працуюць у рымскай Курыі; прадстаўнікі ад арганізацыі генэральных Супэрыёраў (Старшынь) розных законаў. Сярод Біскупаў былі таксама в Літвы і Латвіі. Быў запрошаны на Сынод як пачэсны госьць Др. Поттэр, прадстаўнік Сусьветнай Рады Пратэстанцкіх і Праваслаўных Цэркваў, які зрабіў для Айцоў Сыноду даклад на тэму: «Эвангелізацыя сучаснага сьвету».

**Як праводзілася праца?**

У працы Сыноду можна адрозьніць два этапы. На першым этапе прадстаўнікі паасобных кантынэнтаў або краінаў паінфармавалі прысутных аб стане, умовах і цяжкасьцях эвангелізацыі на сваіх тэрыторыях. Пасьля вялась дыскусія. Гэта была вельмі важная і цікавая часьць усей працы. Яна паказала рэчаісны стан сучаснай эвангелізацыі і выявіла значэньне краёвых Біскупскіх Канфэрэнцыяў, якія хутчэй і лепш пазнаюць патрэбы сваіх Цэркваў, чымсь далёкія рымскія Управы, хаця і добра зарганізаваныя.

У другой частцы працы вяліся дыскусіі багаслоўсяага характару: разважаліся праблемы сьцісла звязаныя з эвангелізацыяй.

Усё гэта было карысным дзеля практычных выснаваў. Багаты матэрыял сваіх досьледаў Сынод пераказаў Папе. Важнейшыя выснавы сынодальных нарадаў былі сабраныя ў адно і прагалошаныя ў асобнай дэкларацыі.

**Важнейшыя выснавы адносна эвангелізацыі.**

Перш трэба добра уцяміць, што такое ёсьць эвангелізацыя? Гэта дзейнасьць абв'яшчаньня Хрыста, Ягонай добрай навіны — Эвангельля; гэта сьведчаньне аб Ім словам і жыцьцём. Яна ёсьць аснаўной, сутнай місіяй і рацыяй існаваньня самой Царквы, як сказаў Павал VI ў час адкрыцьця Сыноду. Загад эвангелізацыі выйшаў ад самага Госпада, які сказаў: «Ідзіце на ўвесь сьвет і навучайце ўсе народы», (Мт. 18, 18). Да выконваньня яго забавязаныя ўсе ахрышчаныя, якіх — як кажа Апостал Павал — падганяе любоў Хрыста і бліжніх. Усе — духоўныя і сьвецкія павінны сьведчыць аб Хрысьце, перадусім сваім жыцьцём, згодным з Эвангельлем, жывучы паводле свайго стану і выконваючы абавязкі сваей прафэсыі. Гэтае сьведчаньне асабістым жыцьцём становіць фундамант усей эвангелізацыі, за чым сьледуе прапаведваньне Хрыста словам, апостольскай дзейнасьцю, кажны паводле свайго прызваньня і магчымасьцяў.

Эвангельле мае быць обвяшчанае ўсім людзям, кажнаму народу паводле загаду Хрыста, бо Ён за ўсіх памёр, каб усіх збавіць. Найперш аднак трэба абвяшчаць Хрыста тым, якія пра Яго яшчэ ніколі ня чулі.

**Моладзь і эвангелізацыя.**

Сынод на яе зьвярнуў асаблівую ўвагу, бо ад яе залежыць будучыня Царквы і хрысьціянства, ёй імкнуцца заваладаць розныя ідэалёгіі, часта праціўныя Хрысту.

Ня толькі патрэба абвяшчаць Хрыста моладзі, але яна сама павінна таксама улучыцца ў эвангелізацыю, ў апостальскую працу, асабліва сярод моладзі. Царква павінна дапамагчы ей у гэтым кірунку праз узгадаваньне.

**Сьвяты Дух і яго роля ў эвангелізацыі.**

Эвангелізацыя ня ёсьць працай самых толькі людзей. У першаю чаргу прадоўжвае яе сам Госпад Ісус Хрыстос у сваей Царкве праз сьвятога Духа. Хрысьціяне — члены містычнага Хрыстовага цела, якім ёсьць Царква, зьяўляюцца толькі прыладай, іструмантам Сьвятога Духа. Ён праз іх сьведчыць аб Хрысьце, стварае суладнасьць у іхняй апостальскай працы і падпарадкавае яе царкоўнай герархіі, якой Сам кіруе праз Галаву Царквы. Эвангелізацыя гэта і ёсьць упарадкаваная супраца людзей са сьвятым Духам. Таму ёсьць неабходным, каб усе члены Царквы: духоўныя і сьвецкія былі зь Ім у цеснай лучнасьці. Гэта вымагае малітвы, разважаньняў аб Божым слове, якім маюць жывіцца самі і абвяшчаць яго сьвету. Сувязь са сьвятым Духам мае прывесьці хрысьціян да еднасьці, да братэрскай супрацы і да паслушэнства Галаве Царквы ў эвангелізацыі.

**Патрэба безупыннага адрадженьня.**

Эвангелізацыя вядзецца перадусім двума спосабамі: абвяшчаньнем Божага Слова, г. зн. апостальскай дзейнасьцю і сьведчаньнем аб Хрысьце асабістым хрысьціянскім жыцьцём. Гэта апошняе ёсьць душой і фундамантам эвангелізацыі, бо яно так было заўсёды, а для

сучаснага чалавека гэта ёсьць асабліва важным, каб бачыць Хрыста не ў славах, а на дзеле ў жыцьці хрысьціян. Таму патрэба ўсьцяж духоўна адраджацца, інакш кажучы — не грашыць і жыцьцё сваё падпарадкаваць сьвятому Эвангальлю. Сынод мае надзею, што цяперашні сьвяты Год спрычыніцца да духовага адраджэньня Царквы і прыгатовіць яе яшчэ лепш да эвангелізацыі.

**Сучасныя умовы эвангелізацыі.**

Кожная эпоха стварае свае асаблівыя ўмовы для распаўсюджваньня Божага валадарства на зямлі. Тое самае можна наглядаць і сяньня. Існуюць спрыяльныя і варожыя умовы.

**Спрыяльныя умовы.** Перадусім трэба да іх залічыць пачуцьцё салідарнасьці між людзьмі, якое ўсьцяж узрастае. Да гэтага дапамагае дзякуючы сучаснай тэхніцы вельмі развітая камунікацыя; сьродкі масавага перказу думкі, як радыё, тэлевізія, прэса. Лучаць людзей таксама супольныя праблемы, эканамічныя і палітычныя цяжкасьці, аднолькава для ўсіх небяспечныя сусьветныя катаклізмы, як зямлятрусы, заразныя хваробы, паводкі. Усе яны вымагаюць злучаных натугаў, каб ад іх забяспечыцца ці перамагчы. Гэтыя ўмовы спрыяюць эвангелізацыі, бо-ж яна найбольш лучыць людзей несьмяротнай ідэяй братэрства і Божага усынаўленьня. Бог ёсьць бацькам для ўсіх і дапаможным ва ўсіх цяжкасьцях.

А сьродкі масавай камунікацыі вельмі-ж дапамагаюць у пашырэньні эвангелізацыі, толькі, нажаль, ня ўсюды можна імі аднолькава ўсім карыстацца.

**Перашкоды эвангелізацыі.**

Сынод не забыўся пра старыя перашкоды, да якіх перадусім трэба залічыць падзел Хрыстовай Царквы на розныя вызнаньні; і дасьледваў аднак і новыя, якія ўзьніклі ў нашу пору. Да іх належаць: сэкулярызм, атэізм, рэлігійны прасьлед і іншыя.

**Сэкулярызм** або ляіцызм імкнецца да поўнай дэхрыстыянізацыі вонкавага жыцьця вернікаў у кожнай яго галіне: будзь гэта навука, грамадзкае жыцьце, разрыўкі, радыё, тэлевізія, кіно ці прэса. З усяго таго, з чым чалавек мае дачыненьне ў штодзённым жыцьці, выкідаецца ўсё тое, што магло-б яму прыпомніць аб яго вечным прызначэньні, аб Богу. На месцы старадаўных хрысьціянскіх традыцыяў у многіх краінах узрастае нэапаганізм. Сэкулярызм пранікае нават ўнутро Царквы. Сьвятара, місыянера, пакліканых да абвяшчаньня Божага Слова, ён робіць звычайным грамадзкім, культурным або палітычным дзеячом, які гатовы, дапускаючы абузу, выкарыстаць сваё пакліканьне для дачасных хуткамінаючых спраў. Сучасны сэкулярызм ёсьць вялікай небясьпекай і перашкодай для эвангелізацыі. Ад яго можа нас ратаваць толькі духовае адраджэньне Царквы.

**Атэізм** — які праяўляецца ў разнастайных формах і ёсьць вельмі складным зьявішчам у нашых часах, асабліва, калі паўстае сур'ёзнае пытаньне пра ягоныя прычыны паўстаньня і пра яго праявы. Падобна як і сэкулярызм вымагае шмат студыяў і малітвы, асабліва, калі жадаем наладзіць цясьнейшую сувязь з гэтымі людзьмі, прыблізіць іх да Бога, да Ягоных поўных любві намераў адносна чалавека, а пасьля абвяшчаць ім. сьв. Эвангельле.

**Рэлігійны прасьлед** зьяўляецца ў многіх краінах вялікай перашкодай для эвангелізацыі. На жаль і цяпер нарушаецца рэлігійная свабода праз усялякія абмежваньні Царквы ў выконваньні ейных абавязкаў, прыкладам у навучаньні рэлігіі, ў прыгатаваньні сьвятароў, ў адпраўляньні набажэнстваў. Царква пазбаўлена права мець свае друкарні, сваю прэсу, радыё г. д. Часта ўжываецца ў адносінах да Царквы гвалт і прымус да маўчаньня, так што вернікам не астаецца іншых сьродкаў, каб сьведчыць аб Хрысьце, як толькі цярпець за Яго. Сынод выявіў глыбокае спачуваньне тым, што нясучы свой крыж сьведчуць аб Хрысьце. За гэта Царква заўсёды будзе ім удзячная.

**Раптоўныя зьмены** мэнтальнасьці сучаснага чалавека, спосабу яго думаньня, пазнаваьння, ацэнкі рэчаіснасьці шмат перашкаджаюць эвангелізацыі. Слова Божага аб'яўленьня ёсьць запісана ў старадаўніх мовах. У перакладзе Біблії на сучасную мову ўсьцяж трэба зьвяртаць увагу на сучасную мэнтальнасьць, якая фармавалася на рацыяналістычным або матэрыялістычным сьветаглядзе, а якая ня мае адпаведных паняцьцяў, якімі было выказанае Божае аб'яўленьне.

Апрача таго ў місыйных краінах існуюць паганскія рэлігійныя паняцьці, часам падобныя да хрысьціянскіх, што сьведчыць аб супольным пачаткавым Божым аб'яўленьні, што аднак не заўсёды дапамагае хрысьціянскаму Місіянеру. Калі зарганізаваліся новыя нацыі, якія атрымалі незалежныя дзяржавы, іхнія ўрады пачалі націскаць, каб хрыстыянізм прыймаў народныя звычаі, каб стаўся больш афрыканскім ці азіяцкім. Каб усё належна пагадзіць ў адно цэлае, не зьмяняючы сутнасьці веры, трэба шмат такту і веды. Эвангелізацыя павінна датарнавацца да культуры кожнага народу, прыняць яго мову.

**Поўнае вызваленьне чалавека.**

Сынод Біскупаў шмат прысьвяціў увагі і працы пытаньню поўнага вызваленьня чалавека праз эвангелізацыю. Гэтага заданьня Царква ніколі ня можа зрачыся, бо яно-ж ёсьць той самай місіяй Хрыста, якую Ён пераказаў Царкве. Хрыстос аб сваей місіі казаў: «Дух Госпада нада мною. Таму паслаў мяне, каб абвяшчаў Эвангельле (добрую навіну) бедным; каб аздараўляў скрышаных сэрцам; каб вязьням абвяшчаў волю і сьляпым аб павароце зроку; каб змучаных выпусьціць на свабоду», (Л. 4, 18).

Поўнае вызваленьне чалавека не азначае толькі ягонае ачышчэньне праз споведзь ці іншыя рэлігійныя практыкі. Яно дамагаецца ад Царквы дапамогі ў зьнішчэньні несправядлівай грамадзкай, палітычнай, эканамічнай структуры або таго ладу, які стварылі людзі, каб іншых трымаць у духовай і фізычнай няволі. Пакрыўджаныя не жадаюць прыймаць Божага слова ад сваіх крыўдзіцеляў, або ад тых, што ёсьць абыякавыя да іхніх цярпеньняў і што не салідарызуюцца з іхнімі слушнымі імкненьнямі.

Таму некаторыя жадалі-б, каб Царква ўлучылася ў змаганьне за дачасны лад у сьвеце, а знайшліся і такія сьвятары, што самавольна прылучыліся да палітычных партыяў, поплеч зь імі павялі барацьбу, прынялі ўдзел у маніфэстацыях і наканец зусім закінулі свае сьвятарскія абавязкі.

Сынод Айцоў цьвердзіць, што Царква ня ёсьць абыякавай на людзкую крыўду, няволю, якую чалавек накідвае чалавеку. Яна змагаецца з гэтым злом, толькі ня дзейнасьцю палітычнай, але выконваючы сваю місію, а гэтай і ёсьць эвангелізацыя — абвяшчаньне Божага слова, духовае адраджэньне чалавека праз Божую ласку. З гэтым маеісьці Царква да ўсіх людзей розных перакананьняў, каб усім вясьціць збаўленьне. Таму ня можа яна лучыцца з той ці іншай групай людзей, прымаць без засьцярог іхнія праграмы.

Царква выконвае сваю місію, даручаную ей Богам і ў гэтым ніхто яе ня можа заступіць. Яна вызваляе чалавека з грахоў, выхоўвае яго ў духу справядлівасьці, любові Бога і людзей і такім чынам праз духовую перамену чалавека пераменяе ягонае асабістае і публічнае жыцьцё. Гэтак мае рашучы ўплыў на несправядлівы лад ці палітычную сыстэму.

Царква выступае публічна ў абароне пакрыўджаных, называючы кожную крыўду па імені і асуджае яе. Яна адносна ўсіх выконвае свой душпастырскі абавязак. Яна вучыць, як уладзіць жыцьцё, каб яно сталася лепшым ня толькі для адзінак, але для ўсяго грамадзянства, для дзяржавы, каб яно было згоднае з воляй і правам Божым.

Апрацавалі Ч. С. і Ф. Ж.

---

*а. Т. Падзява*

# Добрая навіна

## ПЕРШЫЯ ЛЮДЗІ САГРАШЫЛІ

### XIII-я КАТЭХЭЗА

Праз аднаго чалавека грэх увайшоў на сьвет, — Рым. 5, 12.

Бог усынавіў чалавека — паклікаў яго да супрацоўніцтва і сужыцьця з сабою. Стварыў яго разумным і свабодным, каб ён уладжваў сьвет і сваё жыцьцё згодна з воляй Божай. Чалавек ведаў, што трэба захаваць парадак, які Бог устанавіў і што трэба пільнаваць яго, каб быў захаваны («даглядаць раю» — як кажа Кніга Быцьця, 2, 15), паступаць і дзейнічаць згодна з воляй Стварыцеля.

Кніга Быцьця ў жывых вобразах апісвае няшчасьце першых людзей (Быцьця 2 і 3 раздзелы). Паводля гэтага расказу Бог даў Адаму і Еве загад і зажадаў, каб яны сьведама ды дабравольна Яго слухалі. Перасьцярог іх, што памруць, калі Яго не паслухаюць. Праз гэтую перасьцярогу Бог ясна паказаў, што любіць людзей і хоча, каб іхняе шчасьце было трывалае. Дзеля таго сьмерць узалежніў ад свабоднага выбару самога чалавека. І чалавек сам дабравольна выбраў для сябе сьмерць.

Першыя людзі не дацанілі Божае перасьцярогі. Кніга гаворыць далей, што паслухаўшы злога духа яны захацелі стацца «як Бог» і выкарысталі сваю свабоду супроць волі Бога — Стварыцеля. Яны сьведама аказаліся непаслушнымі. Яны паслухалі злога духа, аб якім Хрыстос сказаў, што ён ёсьць «брахун і бацька маны» (Ян 8, 44), замест та-

го, каб паверыць Богу, які ёсьць чыстая Праўда ды ад Якога апрача дабра нічога ня бачылі. Яны паставілі на першым месцы сваю волю замест Божае. Гэтым самым паказалі, што ня любяць Бога.

Далей Кніга Быцьця апісвае гэтаксама ў вобразах страшэнныя вынікі гэтага грэху. Яна гаворыць аб выгнаньні першых людзей з раю, прадсказвае ім жыцьцё ў цяжкой працы ды ў пакутах.

*

Царква вучыць, што грэх першых людзей пахіснуў сужыцьцё і парваў лучнасьць чалавека з Богам. Інакш кажучы, гэты грэх зьнішчыў у чалавеку надпрыроднае жыцьцё. Аслабіў таксама любоў і згоду паміж людзьмі ды пасварыў іх між сабою. Людзям нават у думку не прыходзіць, каб шукаць шчасьця любячы адзін другога, бо кожны шукае шчасьця ў любові да самога сябе — у сваім эгаізме. А якраз у Сьвятой Тройцы Божыя Асобы — Айцец, Сын і Сьвяты Дух — толькі ў гэтым і знаходзяць сваё шчасьце, бо іхняя любоў ёсьць зусім вольнай ад эгаізму. Дык і чалавек ня інакш можа знайсьці сваё запраўднае шчасьце, бо Бог стварыў яго на свой абраз і падабенства. Тымчасам людзі ня толькі не стараюцца любіць адзін другога, але яшчэ крыўдзяць адны другіх, або замест памагчы ў бядзе, астаюцца абыякавымі.

Трэцяй шкодай, якую грэх спрычыніў чалавеку, ёсьць непарадак у самай натуры чалавека. За кару, што чалавек не паслухаў Бога, частка матэрыяльная ягонае прыроды, супольная чалавеку з расьлінамі і жывёлаю, збунтавалася супраць вышэйшай, разумнай, духовай часткі. Інакш кажучы: цела збунтавалася супраць душы. Пачуцьці, імкненьні ды нахілы ня служаць ужо розуму, а воля таксама ня можна заўладаць над імі. Наадварот, разумная чалавечая воля сама аддаецца ў няволю гэтым сьляпым сілам. Замест сапраўднага дабра, яна часта выбірае дабро непраўдзівае, уяўнае.

Гэтаксама грэх зрабіў чалавечае жыцьцё на сьвеце цяжкім і няцікавым. Замест таго, каб лёгка ўладаць сьветам, рабіць яго лепшым ды весьці да Бога, чалавек робіць гэта з вялікай цяжкасьцю, мучыцца, зьнемагае, цярпіць і ў канцы паміpae. Бо, як кажа Апостал: «Грэх увайшоў у сьвет, а праз грэх сьмерць» (Рым. 5, 12). Грэх ёсьць найбольшым злом і няшчасьцем для чалавека. Толькі тады чалавек можа стацца вялікім і шчасьлівым, калі жыве ў лучнасьці з Богам і выконвае Ягоную волю. Калі-ж адварочваецца ад Бога, дык траціць сваю веліч і шчасьце, як аб гэтым сказана ў Кнізе Быцьця: «Ты зямля і ў зямлю абернешся» (Быцьця 5, 19).

У лацінскім абрадзе Царква штогод прыпамінае гэтую праўду. У сераду, ад якой пачынаецца Вялікі Пост, сьвятар пасыпае вернікам галовы попелам, кажучы: «Помні, чалавеча, што ты ёсьць парахно і ў парахно ізноў пераменішся». Гэтым заклікае Царква кожнага верніка да перамены жыцьця, калі яно яшчэ неўпарадкаванае.

Грэх прынёс на сьвет сьмерць, аднак Хрыстос перамог грэх і сьмерць. Ён паміpыў людзей з Богам і паміж сабою. Ён даў кожнаму чалавеку магчымасьць заўладаць розумам асьвечаным верай і воляй узмоцненай Божай помачай над сьляпымі, цёмнымі сіламі сваей прыроды, абяцаючы за гэта уваскрашэньне. Таму сьвятар у лацінскім абрадзе, пасыпаючы труну памёршага зямлёй, кажа: «Ты парахно і ў парахно разсыпешся, аднак Госпад ажывіць цябе ў апошні дзень».

НАШ АДКАЗ БОГУ: Буду сьцерагчыся граху, як найбольшага няшчасьця.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: (Псальм 50) —

Зжалься нада мною, Божа, паводле вялікага Твайго міласердзя дый паводле вялізнага Твайго зьлітаваньня ачысьці мяне ад майго беззаконьня.

Яшчэ больш абмый мяне ад нягоднасьці маей і вызвалі мяне ад віны маей.

Бо сваю нягоднасьць я ведаю і грэх мой заўсёды стаіць у мяне прад вачамі.

Бо Табе толькі аднаму я саграшыў і перад Табою рабіў дрэнна, каб Ты меў поўнае права абвінаваціць і асудзіць мяне.

Бо вось у беззаконьні я пачаўся і ў граху пачала мяне мая маці. Бо Ты палюбіў праўду і з глыбіны Тваей мудрасьці Ты мяне вучыш. Акрапі мяне гізопам і я буду чысты, абмыеш мяне і я буду бялейшы ад сьнегу.

Дай пачуць мне радасьць і вясельле і няхай усклікнуць ад радасьці косьці, якія ты скрышыў.

Адвярні Сваё аблічча ад маіх грахоў і ачысьці ўсю маю неправасьць. О, Божа! Ствары ўва мне чыстае сэрца і ўзнаві ў маіх грудзях моцнага духа.

Не адкінь мяне ад Твайго аблічча і не адбірай ад мяне Твайго Сьвятога Духа.

Вярні мне радасьць Твайго спасеньня і валадарным духам узмацуй мяне.

Пакажу беззаконным Твае шляхі і нягоднікі звернуцца да Цябе.

Ратуй мяне ад крыві, Божа майго выратаваньня і язык мой будзе славіць Тваю справядлівасьць.

Госпадзі, Ты адчыніш мае вусны і вусны мае будуць абвяшчаць Тваю славу.

Бо калі-б Ты зажадаў ахвяраў, я даўбы бязумоўна, аднак жэртвы спаленыя агнём Табе не ў спадобу.

Ахвярай для Бога ёсьць толькі дух пакаянны, сэрцам разбітым і паніжаным Ты, Божа, не пагардзіш.

Зрабі, Божа, ласку з добрай Тваей волі Сыону, ды няхай адбудуюцца муры Ерузаліму.

Тады Ты прыймеш ахвяру справядлівасьці, дары і жэртвы, тады на Твой аўтар паложаць цялят.

*

БОЖАЕ СЛОВА: Пажаданьне, зачаўшы, спараджае грэх, а зроблены грэх спараджае сьмерць. (Як. 1, 15).

НАВУКА АПОШНЯГА САБОРУ: Бог стварыў чалавека справядлівым. А чалавек, дапусьціў зло ўжо на пачатку гісторыі, дрэнна выкарыстаў сваю свабоду — супрацівіўся Богу і захацеў асягнуць сваю мэту незалежна ад Яго. Пазнаўшы Бога, людзі не аказалі Яму пашаны як Богу, але «замарочылася неразумнае іхняе сэрца і яны ахватней служылі стварэньню, чымся Стварыцелю».

Тое, што нам ведама дзякуючы Божаму Аб'яўленьню, згаджаецца з досьледам. Бо чалавек, калі загляне ў сваё сэрца, спасьцярагае, што ў ім ёсьць нахіл да злога і што сам ён патануў у шматлікім благоцьці, якое ня можа выходзіць ад добрага Стварыцеля. Не згаджаючыся часта прызнаць Бога за свой пачатак, ён разбурае належныя адносіны да сваей апошняй мэты ды таксама разбурае ўсё сваё упарадкаванае накіраваньне як да самога сябе, так і да іншых людзей і да ўсіх створаных рэчаў.

Таму чалавек ёсьць унутранна падзелены. Таму і ўсё людзкое жыцьцё, як індывідуальнае так і грамадзкае, выглядае быццам змаганьне і пры тым драматычнае паміж дабром і злом, паміж сьвятлом і цемрай. Больш таго, чалавек адкрывае, што ён ня ёсьць здольны перамагаць пасьпяхова сваімі сіламі напасьці злога, так што ён чуецца як быццам зьвязаны ланцугамі. Але сам Госпад прыйшоў, каб чалавека асвабадзіць і даць яму сілу, абнаўляючы яго ўнутранна ды выганяючы вон «валадара гэтага сьвету» (Ян 12, 31), які трымаў чалавека ў няволі граху. Грэх робіць чалавека меншым, бо адводзіць яго ад асягненьня паўнаты.

У сьвятле гэтага Аб'яўленьня знаходзіць адначасна сваё апошняе выясьненьне ўзвышаны поклік і глыбокая нядоля, якія адчувае чалавек. (Пастаральная Канстытуцыя, 13).

*

ПЫТАНЬНЕ ДА XIII-е КАТЭХЭЗЫ:

23) Што выклікаў грэх першых людзей?

АДКАЗ: Грэх першых людзей парваў іхную лучнасьць з Богам, парозьніў іх між сабою, разбурыў у іх унутранны лад ды сьцягнуў на іх сьмерць.

---

*А. Калубовіч*

# Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства

## (РУКАПІСНАГА Й ДРУКАВАНАГА)

(Працяг)

### Спробы звароту ў Беларусь помнікаў беларускага пісьменства

Спробы гэтыя пачаліся на самым золаку адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці ў 1917—18 гг. Ужо **Зьезд беларусаў-вайскоўцаў Заходняга фронту**, які адбываўся 18—24 кастрычніка 1917 г. у Менску, у сваёй рэзалюцыі патрабаваў, «каб усе . . . гістарычныя каштоўнасьці, а менавіта: акты, архівы, музэі, эвакуяваныя, а таксама калі-небудзь вывезеныя із Беларусі й былога Віленскага ўнівэрсытэту, былі вернутыя назад у Беларусь».[287]) «Поўны зварот эвакуяваных у Расею гістарычных помнікаў культуры, мастацтва . . . павінен быць праведзены неадкладна па сканчэньні вайны», — пісала (27 кастрычніка 1917 г.) **Вялікая Беларуская Рада** ў сваёй адозве да беларускага народу.[288]) У чэрвені 1918 г. **Урад БНР** зьвярнуўся праз свайго консула ў Маскве да расейскага савецкага ўраду із афіцыйнай просьбаю звароту ў Беларусь ейных архіваў.[289]) Крокі беларускага ўраду былі падтрыманыя зь Вільні й Горадні. «**Прэзыдыюм Беларускае Рады ў Вільні**, даведаўшыся, што ў Расеі . . . адбываецца ліквідацыя эвакуяваных зь Беларусі . . . культурна-прасьветных устаноў, упаўнаважыў **Горадзенскі**

---

287) час. «Чырвоны Шлях», Петраград, № 3—4, 25. VIII. 1918 г., б. 20 (гл. таксама перадрук рэзалюцыі ў «Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Мюнхэн, 1964 г., кнг. 3, б. 164).

288) Ф. Турук. Белорусское движение, Москва, 1921 г., б. 97.

289) Захват памятак старасьвеччыны і мастацтва — газ. «Гоман», Вільня, № 51/247 за 2. VII. 1918 г.

**Губэрнскі Цэнтральны Камітэт злучаных грамадзянскіх арганізацый** учыніць патрэбныя крокі перад расейскімі і нямецкімі ўладамі дзеля павароту памянутых установаў у Беларусь і аднаўленьня тут іх чыннасьцяў; а таксама ўзяць на сябе ахарону і рээвакуацыю ўсіх вывезеных з нашага краю культурных цэннасьцяў, гістарычных помнікаў, музэяў, архіваў . . . ».[290]) Мажліва, што ў якойсь сувязі із гэтымі захадамі хутка пасьля іх «палітычна-прававаым пададдзелам **Беларускага аддзелу ў Камісарыяце нацыянальных справаў»** у Маскве быў «апрацаваны» «праект дэкрету аб звароце помнікаў навукі, літаратуры й мастацтва, вывезеных калі-небудзь із Беларусі» «і перададзены ў Цэнтральны Беларускі Камісарыят для правядзеньня яго ў жыцьцё».[291])

Аднак усе гэтыя законныя стараньні беларусаў расейскі савецкі ўрад поўнасьцю зыгнараваў. Таму пазьней, у 1920-ых гг., просьбы звароту былі паўтораныя.

У 1925 г. **рэктар Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту ў Менску** праф. У. Пічэта езьдзіў у тагачасную сталіцу УССР Харкаў, каб прасіць Наркамасьветы УССР вярнуць Шчорсаўскую бібліятэку й архіў із Кіева ў Менск ня толькі дзеля таго, што бібліятэка гэтая й архіў беларускія, у Кіеў былі эвакуяваныя часова, але яшчэ й таму, што ўласьнік іхны, граф Храбтовіч, адказаў іх першаму ўнівэрсытэту, які зноў будзе адчынены ў Беларусі. Хоць Наркамасьветы УССР і запэўніў У. Пічэту ў звароце бібліятэкі й архіву,[292] нажаль, гэта былі толькі словы.

17—18 студзеня 1926 г. у Менску абрадаваў **1-шы зьезд беларускіх археолягаў і археографаў**, скліканы Інстытутам Беларускае Культуры. Абмеркаваўшы на ім прыгадваныя намі рэфэраты пра лёс помнікаў старога беларускага пісьменства, зьезд прыняў у гэтай справе тры рэзалюцыі. У рэзалюцыі № 1, «Аб Літоўскай Мэтрыцы», было сьцьверджана, «што вывучэньне і распрацоўка даных аб мінулым Беларусі . . . немагчыма бяз сталага і непасрэднага карыстаньня Літоўскай Мэтрыкай»; а таму «Зьезд лічыць неабходным якнайхутчэй перавезьці архіўны фонд Мэтрыкі Літоўскай у БССР».[293]) У рэзалюцыі № 2, «Аб беларускіх архіўных фондах за межамі БССР», «Зьезд пастанавіў . . . аб звароце архіўных фондаў, што датычацца Беларусі, як, напрыклад — дакуманты і кнігі старых беларускіх архіваў, а ў тым ліку і адарваныя часткі Літоўскай Мэтрыкі, якія раскінуты і знаходзяцца цяпер у был. архіве Землеробства і землябудаўніцтва, у Ленінградскай Публічнай бібліятэцы, у был. Археаграфічнай Камісіі, у был. архіве Галоўнага Вайсковага Штабу, у был. Архіве Міністэрства Замежных Спраў у Маскве і ў іншых архіўных установах РСФСР; а таксама і тыя архівы, якія былі эвакуяваны ў час апошняй вайны, як, напр. — архіў Віцебскі і Віленскі і іншыя архіўныя фонды». Апрача таго, «даведаўшыся, што ў архівах Польшчы знаходзіцца значны лік архіўных матар'ялаў XV—XVIII ст.ст., якія па сваім афіцыйным паходжаньні належаць да старых беларускіх архіваў . . . Зьезд лічыць неабходным прасіць Урад БССР аб пастанове пытаньня аб іх звароце».[294]) У рэзалюцыі № 6, «Аб звароце бібліятэк», «Зьезд пастанаўляе прасіць Інбелкульт зьвярнуцца да ўраду з посьбай аб звароце ў БССР бібліятэк, вывезеных з Беларусі ў розныя часы»[295])

Ці рабіў што ў гэтай справе тады або калі пазьней Урад БССР, публічна пра гэта нічога няведама;[296]) і ніводная старая беларуская бібліятэка, архіў ці якісь пазьнейшы зь іх збор у БССР дагэтуль ня вернутыя.

Ня чуваць і аб новых спробах звароту з боку АН БССР ці іншых навуковых установаў.[297]) Апошнія адно пачалі зьбіраць цяпер мікрафільмы й фатастаты.[298]) Як выключэньне,

[290] Аб паварот культурных цэннасьцяў — Гоман, № 51/247.

[291]) «Чырвоны Шлях», там-жа («Запісы . . . », б. 165).

[292]) Полымя, 1925 г., № 2, б. 208.

[293]) ІБК ПЗБАА, Рэзалюцыі, б. 5.

[294]) Там-жа, бб. 5—6.

[295]) Там-жа, б. 7.

[296]) Ведама адваротнае: пасьля 2-ой сусьветнай вайны прадстаўнікі БССР, паводля сьведчаньня был. дырэктара Беларускага музэю імя Я. Луцкевіча ў Вільні, адмовіліся забраць із Вільні ў БССР гэты музэй; і шматлікія помнікі пісьменства зь яго перайшлі ў Цэнтральную бібліятэку АН Літоўскай ССР у Вільні — ЛІМ, № 57/2518, б. 13.

[297]) Часткава да гэтага магла спрычыніцца тая акалічнасьць, што папярэднія руплiўцы гэтых спробаў — дэлегаты зьезду 1926 г. былі рэпрэсаваныя. Старшыні зьезду праф. М. Доўнар-Запольскаму адразу-ж па зьезьдзе было дадзена да зразуменьня, каб ён сам неадкладна пакінуў БССР, што ён і зрабіў увосені таго-ж 1926 г.; а рэшта сяброў прэзыдыюму, рэфэрэнты й блізу ўсе дэлегаты гэтага першага й тымчасам адзінага ў БССР зьезду беларускіх археографаў у 1930-ых гг. былі арыштаваныя й высланыя.

[298]) Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР вядзецца «работа па адшукванню і падрыхтоўцы фотакопій і мікрафільмаў забытых і раней невядомых помнікаў старажытнай беларускай пісьменнасці: было выяўлена звыш ста старажытных твораў, якія да апошняга часу фактычна яшчэ ня былі ў навуковым ужытку» (А. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1, Мінск, 1967 г., б. 7). Кандыдат гістарычных навук Інстытуту гісторыі АН БССР В. Мялешка ў архівах Вар-

нам ведамы толькі адзін выпадак: у 1965 г. Дзяржаўны гістарычны музэй БССР атрымаў ад жыхара г. Львова Т. Максіські 54 дакуманты XVI—XVII ст.ст. з гісторыі Слонімскага й Наваградзкага паветаў (арыгінальныя лісты й прывілеі в. кн. в. кн. Аляксандра, С. Баторага й Жыгімонта Вазы).[299])

### Дзе цяпер помнікі беларускага пісьменства X—XVIII ст.ст.

Працэс пошукаў і выяўленьня іх далёка не закончаны: беларускіх дасьледчыкаў тут чакае вялікая праца. Із таго-ж, што нам ведама дагэтуль, можна сьцьвердзіць, што пасьля столькіх выпадкаў гібелі іх у пажарах і войнах, пасьля бясконцых вывазаў і нішчэньняў, у самой Беларусі іх засталося мала, у БССР — яшчэ меней.

У **Менску** яны захоўваюцца ў **Дзяр. бібліятэцы БССР, Фундамэнтальнай бібліятэцы АН БССР, Дзяржаўным гістарычным музэі БССР і Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР.** Дзяржаўна бібліятэка із рукапісных кніг мае ўсяго зь дзясятак багаслужбовых і царкоўна-павучальных помнікаў перапішчыцтва XVI—XVII ст.ст.[300]) ды гэтулькі-ж старадрукаў XVI ст. з друкарняў Ф. Скарыны ў Празе, Р. Хадкевіча ў Заблудаве й братоў Мамонічаў у Вільні.[301]) Яшчэ меней іх у Фундамэнтальнай бібліятэцы АН.[302]) У дзяржаўным музэі ёсьць невялікая калекцыя дакумантаў XVI—XVIII ст.ст., колькі рукапісных кніг і паасобныя выданьні XVI—XVIII ст.ст. з друкарняў Заблудава, Вільні, Куцейны, Магілёва, Нясьвіжу, Горадні, Полацка, Супрасьля.[303]) Большы збор дакумантаў мае Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР, створаны ў 1963 г. із фондаў был. Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіву БССР у Магілёве, старажытных актаў ягонага філіялу ў Горадні й Дзяржаўнага архіву Менскай вобласьці (тут і ф. 694 — был. Нясьвіскага архіву, вывезенага ў 1939 г.[304])

Калекцыю дакумантаў XVI—XVIII ст.ст. і старадрукі XVII—XVIII ст.ст. із Горадзенскіх друкарняў мае **Дзяржаўны гісторыка-археалягічны музэй у Горадні.**[305])

Непараўнана болей помнікаў старога беларускага пісьменства ў Вільні. якая пасьля І-ай сусьветнай вайны была пад Польшчаю, а пасьля 2-ой — у межах Літоўскай ССР. Тут рукапісныя кнігі, дакуманты й старадрукі ў беларускай, царкоўнаславянскай, лацінскай і інш. мовах сабраныя ў **Цэнтральнай бібліятэцы АН Літоўскай ССР** і рукапісным аддзеле **Бібліятэкі Віленскага ўнівэрсытэту.**

Зборы акадэмічнай бібліятэкі — гэта былыя зборы Віленскай Публічнай бібліятэкі (вывезеныя ў 1915 г. у Расею й вернутыя ў 1945 г. назад), Беларускага музэю ймя Я. Луцкевіча ў Вільні (был. прыватнага збору беларускага археоляга Я. Луцкевіча, ператворанага па ягонай сьмерці, у 1921 г., у грамадзкі музэй,[306]) падпарадкаваны ў 1940—41 гг. АН Літоўскай ССР і зусім адаптаваны ёю ў 1946 г.) і некаторых іншых невялікіх калекцыяў. Найбольш коштоўныя помнікі беларускага пісьменства гэтага кнігазбору ў наступных фондах: у першых шасьці спэцыяльна пэргамінных фондах, якія агулам маюць 1395 дакумантаў (лістоў, наданьняў і прывілеяў в. кн. в. кн. Вітаўта, Аляксандра, Жыгімонта Старога, Жыгімонта Аўгуста, С. Баторага й інш.) — ф. 1 (В-і, был. Віленскай Публічнай бібліятэкі, пач. ад 1187 г.), ф. 2 (PRK, ад 1503 г.), фф. 3 і 6 (В—55 і VK, был. Віленскай капітулы, ад 1414 і 1387 гг.) і фф. 4 і 5 (PK і PK—2, г. зв. 1-ай і 2-ой калекцыі пэргамінных дакумантаў, ад XIV і XVI ст.ст.); ф. 19 (RKF), які мае 329 рукапісных кніг XI—XVIII ст.ст. был. Віленскай Публічнай бібліятэкі

шавы, Кракава, Пазнані й Курніка знайшоў шмат дакумантаў XVI—XVIII ст.ст. з гісторыі Слуцка, Ваўкавыска, Нясьвіжу, Копысі, Магілёва, Стоўпцаў, Шклова, Валожына й інш. гарадоў і мястэчак Беларусі, дагэтуль невядомых гістарычнай навуцы. 25.000 балонак зь іх ён адабраў для мікрафільмаваньня (час. «Беларусь», Мінск, 1963 г., № 10, б. 25).

299) ЛІМ, № 66/2015 за 17. VIII. 1965 г.

300) Працы Інстытуту мовазнаўства АН БССР, вып. 4, Мінск, 1957 г., бб. 70 і 79.

301) БелСЭ, т. 2, 1970 г., б. 326.

302) Там-жа, б. 328.

303) Там-жа, т. 4, бб. 228—229.

304) Невядома аднак, ці сюды перададзены ўвесь Нясьвіскі архіў. У савецкіх інфармацыях гэты фонд Радзівілаў, які «складае амаль чатыры вагоны дакумантаў», мянуецца «фамільным» (час. «Беларусь», Мінск, 1955 г., № 9, б. 32), хоць у навуковай літаратуры за ўласна «фамільныя фонды» Нясьвіскага архіву ўважаецца толькі малая ягоная частка, куды, паводля Іконьнікава (т. 1, кнг. 2, бб. 1239—1241), із усіх 254,846 дакумантаў у 1867 г. належала 14.800.

305) БелСЭ, т. 4, б. 19.

306) У музэі былі калекцыі беларускіх старадрукаў XV—XVIII ст.ст. (Трыйдзь каляровая Ш. Фэоля, выданьні Ф. Скарыны й беларускіх друкарняў у Вільні, Нясьвіжы, Заблудаве, Еўі, Магілёве, Куцейне, Горадні, Полацку, Слуцку), рукапісных кніг XII—XVIII ст.ст. (Словы Хведара Студзіта з 1176 г., ілюстраванае эвангельле Жухавіцкай царквы к. Міра з XIV ст., Жыровіцкі трэбнік 1545 г., беларускія пераклады «Александрыі» й «Аповесьці пра Баву» XVIII ст. і г. д.), юрыдычных актаў (пач. ад 1507 г.), сфрагістычных і эпіграфічных помнікаў (пячаткі Полацкіх князёў Усяслава Чарадзея з XI ст. і сына ягонага Барыса з 1-ае траціны XII ст., Дарагічынскія сьвінцовыя пломбы з XII—XIII ст.ст. і інш.) і г. д — В. Глазырын. Беларускі музэй у Вільнюсе (ЛІМ, 1941 г., № 7); БелСЭ, т. 2, б. 242.

(багаслужбовых — Тураўскае эвангельле XI ст., Менскае эвангельле XIV ст. і інш.; кніг Сьвятога Пісьма — пяцікніжжа Майсея, кнігі прарокаў, апосталы, апакаліпсы й інш.; твораў айцоў царквы — Яна Залатавуснага, Рыгора Багаслова, Ахрэма Сірына, Рыгора Дваяслова, Дарафея авы й інш.; зборнікаў мастацкай і навуковай літаратуры — чэцьці, а ў тым і Супрасьльская кан. X-пач. XI ст., пацярыкі, пралогі, палеі, хранографы й г. д.); ф. 22 (BX) — таксама рукапісныя кнігі был. Віленскай Публічнай бібліятэкі (Летапіс Абрамкі, ізмарагды, мінеі, трэбнікі й г. д.); ф. 21 (VB) — зборы Беларускага музэю імя Я. Луцкевіча ў Вільні, пасьля абрабаваньня якога ў 1944 г.[307]) у ім засталося яшчэ 2.306 рукапісных адзінак перахаваньня — кніг, а найболей дакумантаў із былых прыватных архіваў графаў Цішкевічаў (XVI—XIX ст.ст.), Касьцюшкаў (1530—1906 гг.), Сапегаў (1571—1728 гг.), друкароў Мамонічаў (XVI—XVII ст. ст.), Кастравіцкіх (1600—1837 гг.), князеў Радзівілаў (XVII—XVIII ст.ст.), актаў беларускіх манастыроў і цэркваў (1507—1854 гг.) і інш.; а таксма помнікі юрыдычнага пісьменства ў фф. 9 (BF, ад XVI ст.), 18 (B—4, был. Віленскай Публічнай бібліятэкі, ад XVI ст.), 25 (ADK, ад 1496 г.), 122 (BMK, ад 1490 г.) і інш.

У бібліятэцы ўнівэрсытэту ёсьць к. 50 рукапісных трактатаў беларускіх філёзафаў XVII—XVIII ст.ст. у лацінскай мове,[308]) колькі старадрукаў, пасобныя актавыя кнігі XVI—XVII ст.ст.[309])

Але галоўныя зборы помнікаў старога беларускага пісьменства, як гэта мы ўжо часткава паказлі, знаходзяцца паза Беларусьсю[310]) — на Украіне, у Польшчы, а пераважна ў Расеі. Да ўжо сказанага пра гэта застаецца дадаць, што пасьля розных (дасюлешніх) рэарганізацыяў бібліятэк, архіваў і музэяў яны сабраныя ў наступных важнейшых украінскіх, польскіх і расейскіх сховішчах.

**На Украіне:** у **Кіеве** — у **Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы УССР (был.** Усенароднай бібліятэцы Украіны), куды ў 1924—25 гг. із Кіеўскага ўнівэрсытэту былі перададзеныя (мы ня ведаем, ці поўнасьцю) Шчорсаўскія бібліятэка й архіў графаў Храбтовічаў, а ў 1927 г. — зборы Кіеўскіх духоўнай акадэміі й манастыроў;[311]) у **Львове** — у **Дзяржаўным музэі ўкраінскага мастацтва** (дзе ёсьць беларускія рукапісы й к. 100 старадрукаў із 20 беларускіх друкарняў, сабраных у 1905—08 гг. у Беларусі дырэктарам музэю. І. Сьвяціцкім),[312]) **Бібліятэцы АН УССР** (дзе частка былых збораў бібліятэкі Асалінскіх) і **філіяле Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіву УССР** (ф. 201 і інш.).

**У Польшчы:** у **Варшаве — у Нацыянальнай бібліятэцы** (Biblioteka Narodowa, был. Варшаўская Публічная бібліятэка), дзе ў часе 2-ой сусьветнай вайны згарэла бальшыня ранейшых збораў рукапісаў і старадрукаў, але куды перайшлі зборы графаў Красінскіх, графаў Замойскіх, зьліквідаванай бібліятэкі Пярэмыскай вуніяцкай капітулы й інш.; **Галоўным архіве старажытных актаў** (Archiwum Główne Akt Dawnych, был. Каронны); у **Кракаве — у бібліятэцы Нацыянальнага музэю** (Museum Narodowy, у былых зборах князёў Чартарыйскіх); у **Курніку** к. Пазнані — у **Бібліятэцы Польскай АН** (был. графаў Дзялаў), із унікальных кніг — беларускі буквар выданьня Віленскага праваслаўнага брацтва ў 1640 г.; **Упсальскага каралеўскага ўнівэрсытэту ў Швэцыі** (Kungl. Universitets Bibliot.), якая мае экзэмпляр Статуту Вялікага княства Літоўскага рэдакцыі 1588 г., «Лексиконъ» П. Бярынды, 1653 г., Куцейна, і інш. і 5 выданьняў невядомых да 1951 г. бібліяграфіі; **Аксфордзкага ўнівэрсытэту ў Ангельшчыне** (Bodleian Library), дзе, спаміж іншых, ёсьць 9 невядомых да 1951 г. беларускіх старадрукаў 1574—1644 гг. ды колькі помнікаў XVI—XVII ст.ст. рукапісных (арыгінал ліста С. Буднага да ангельскага рэфармацыйнага дзеяча Джана Фокса з 1574 г., слоўнік XVII ст.); а таксама й бібліятэкі **Ватыкану, был. Каралеўскую ў Бэрліне, Кэмбрыджскага ўнівэрсытэту ў Ангельшчыне, архібіскупа Марша ў Дубліне, Нацыянальную ў Парыжэ, Каралеўскую ў Капэнгагэне, Middle Temple у Лёндане, Landesbibliothek у Гоцэ** (Gotha, Нямеччына), **народныя ў Белградзе й Сафіі й беларускую імя Ф. Скарыны у Лёндане.**

---

307) ЛІМ, № 57/2518, б. 13.

308) БелСЭ, т. 4, б. 26.

309) 450 год беларускага кнігадрукаваньня, АН БССР, Мінск, 1968 г., бб. 139 і 150.

310) Тут трэба дадаць, што ў **был. Рыскім гарадзкім архіве**, ф. 2 (цяпер — Вонкавы архіў Рыскага магістрату, ф. 2. у **Цэнтральным дзяржаўным архіве Латвійскай ССР**) захаваліся ў беларускай мове арыгіналы гандлёвых умоў і дыпляматычных лістоў XIII—XVI ст.ст. паміж Полацкам (у некалькіх — Віцебскам і Смаленскам) і немцамі Рыгі й ганзейскіх гарадоў. Паводля аднаго із публікатараў іх, А. Харашкевіч (публікатар — жанчына), толькі за апошнюю траціну XV ст. у архіве іх болей за 70 (Археограф. ежегодник за 1965 г., Москва, 1966 г. б. 328). Невялікія калекцыі бел. старадрукаў ці паасобных рукапісаў, часта арыгінальных, унікальных ці рэдкіх, выяўленыя ў бібліятэках заходняе й паўдзённае Эўропы, куды яны ў свой час трапілі рознымі дарогамі. Назавем тут бібліятэкі **Брытанскага музэю ў Лёндане** (British Museum), дзе ёсьць некаторыя выданьні Ф. Скарыны й беларускіх друкарняў кан. XVI—XVII ст.ст. (а ў тым і Слуцкай друкарні Радзівілаў), ...

311) Известия Академии Наук БССР, Минск, 1955 г., № 5, б. 66; Проф. д-р Н. Полонська-Василенко. Українська Академія Наук (Нарис історії), ч. 1 (1918—1930), Мюнхен. 1955, бб 91—92.

312) Полымя, 1968 г., № 3, б. 250.

**лынскіх**[313]) і ў **Пазнані** — у **Бібліятэцы Рачынскіх**, таксама моцна ўцярпелай у часе **2-ой сусьветнай вайны.**

Беларускія старадрукі XVI—XVIII ст.ст. ёсьць і ў **Ягайлаўскай бібліятэцы ў Кракаве** й бібліятэках **Нацыянальнага інстытуту імя Асалінскіх Польскай АН і ўнівэрсытэту ўва Уроцлаве,**[314] а рукапісы — у **бібліятэцы Варшаўскага ўнівэрсытэту.**[315]

**У Расеі:** у **Маскве** — у **Дзяржаўнай бібліятэцы СССР,** у зборах был. Маскоўскай Публічнай бібліятэцы пры Румянцаўскім музэі (фф. 256 і 152) і зборах Нікіфаравых (ф. 199), І. Ціханравава (ф. 299), В. Ундольскага (ф. 310), Т. Бальшакова (ф. 37) і г. д.; **бібліятэцы Дзяржаўнага гістарычнага музэю СССР,** у зборах был. Сынадальнай (Патрыяршай) бібліятэкі (ф. 80370) і зборах графа А. Уварава, І. Царскага, Е. Барсава, А. Хлудава, А. Чарткова, П. Шчапава й г. д.; **Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў,** у зборах кніг Літоўскай Мэтрыкі (ф. 389), был. Бібліятэкі Маскоўскай Сынадальнай друкарні (ф. 381), был. Маскоўскага Галоўнага архіву міністэрства замежных спраў (ф. 181), у ф. 1250 і інш.; у **Ленінградзе** — у **Дзяржаўнай Публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына** (был. Пецярбурскай Публічнай бібліятэцы), дзе цяпер і былыя зборы із помнікамі беларускага пісьменства Пецярбурскай духоўнай акадэміі (ф. 573), Расейскага Археалягічнага таварыства (ф. 659), Бычковых (ф. 120), М. Пагодзіна (ф. 588), Ф. Талстога й г. д.; **Бібліятэцы АН СССР** (і як асобнай частцы яе — **Архіве Ленінградзкага аддзелу Інстытуту гісторыі АН СССР),** куды да ранейшых збораў был. Бібліятэкі Пецярбурскай АН далучаныя зборы был. Пецярбурскай Архэаграфічнай камісіі (ф. 2) і інш.; **Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве** (ф. 834 — был. Пецярбурскага Сыноду, і інш.) і ў **Новасібірску** — у **Дзяржаўнай Публічнай Навуковай бібліятэцы Сібірскага аддзелу АН СССР** (у вабодвых зборах М. Ціхамірава).

Найбольшыя зборы беларускіх старадрукаў сабраныя ў ваддзелах рэдкай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі СССР і Дзяржаўнага гістарычнага музэю СССР у Маскве, Дзяржаўнай Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе; меншыя — у Бібліятэцы АН СССР у Ленінградзе й Цэнтральным дзяржаўным архіве старажытных актаў у Маскве.

Помнікі старога беларускага пісьменства ёсьць і ў іншых сховішчах СССР — у **бібліятэках Ленінградзкага**[316] й **Саратаўскага**[317] **ўнівэрсытэтаў**, у **Дзяржаўным архіве Калінінскай вобласьці**[318] і г. д. Іх знаходзяць яшчэ цяпер так далёка ад Беларусі, як на самай поўначы Архангельскай вобласьці й Комі АССР,[319] к. воз. Байкал у Бурацкай АССР[320] і іншых месцах.

313) АШ, № 255; А. Мальдзіс. Тры месяцы..., б. 236.

314) Книга, сб. 8, 1963 г., бб. 293—295.

315) Мальдзіс, там-жа, бб. 204—206.

316) Да папярэдніх інфармацыяў дадамо: В. Н. Перетц. Українськи та білоруськи стародруки в бібліотеці Ленінградського університету — Бібліологичні вісти, Київ, 1924 р., чч. 1—3, бб. 168—178. У 1963—69 гг. сюды із савецкай поўначы дадаткова прывезена 15 кніг XVI—XVII ст.ст., выдадзеных у друкарнях Вільні, Магілёва, Куцейны й Заблудава (А. Х. Горфункель. Каталог книг кирилловской печати 16—17 веков, Ленинград, 1970 г., №№ 5, 16, 18, 21, 23—25, 34, 37, 126, 136, 242, 243, 249 і 192).

317) Ю. Кузнецова. Українськи та білоруськи видання XVI—XVII ст.ст. у бібліотеці Саратовського університету — Бібліологичні вісти, 1928 р., № 1, бб. 33—38.

318) Археографический ежегодник ,за 1960 год, 1962 г., б. 215.

319) Труды Отдела древнерусской литературы Института русской литературы АН СССР, т. 15, 1958 г., б. 408.

320) Археографический ежегодник за 1960 год, бб. 218 і 369.

## *З царкоўнага жыцьця*

### ВЕДА АБ ЧАЛАВЕКУ ПАВІННА БЫЦЬ УСЕБАКОВАЯ

Папа прыняў нядаўна на аўдыенцыі 1500 прадстаўнікоў Міжнароднага Саюзу Фармацэўтаў, учасьнікаў Міжнароднай Канфэрэнцыі Фармакалёгаў. У сваей прамове ён зьвярнуў увагу, што навука аб чалавеку павінна браць пад увагу ўсе ягоныя аспэкты: фізычныя і духовыя, ягоную сувязь з Богам і вечнае прызначэньне. А што датычыць сьродкаў ужываных пры пачацьцю людзкога жыцьця або яго нішчэньня, тут навука павінна ставіць вельмі ясна справу адказнасьці прымаючых у гэтакіх выпадках людзей, асабліва бацькоў. Адказнасьці — разумеецца перад Богам, Творцам жыцьця. Таму Царква не сароміцца забіраць голас у такіх сучасных набалелых праблемах, як аборт, аўтаназія, антыканцэптыўныя сьродкі. Папа заахвоціў вучоных да далейшых студыяў і да шуканьня спосабаў — згодных з Божымі правамі і з дастоінствам чалавека — адносна рэгуляваньня жыцьця пры пачацьці.

## СУПОЛЬНЫ ПЕРАКЛАД БІБЛІІ

Ужо гатовы пераклад Бібліі на віетнамскую мову. У перакладаньні Сьвятых Кніг прыймалі удзел біблія-знаўцы розных хрысьціянскіх веравызнаньняў. Біблію будуць карыстацца каталікі, пратэстанты і англікане.

## «САБОР» МОЛАДЗІ

У канцы жніўня г. г. адбыўся ў Францыі ў Тэзэ, ў экумэнічным асяродку «Супольнасьць» міжнародны з'езд моладзі розных веравызнаньняў. Сабралася каля 40.000 моладзі з 129 краінаў. Царкоўныя ўлады былі таксама зацікаўленыя гэтым зьездам, таму прысутнічалі на ім Кард. Віллебрандс, др. Поттэр — сакратар Сусьветнай Рады Цэркваў; Мітрапаліт Дамаскінос — прадстаўнік Канстантынопальскага Патрыярха; Кард. Кэніг з Вены і інш. Павал VI прыслаў прывітальную тэлеграму, у якой заахвочваў удзельнікаў маліцца за супакой. І запраўды «сабор» моладзі распачаўся супольнай малітвай. Таксама у дыскусіях была гутарка аб малітве, аб справядлівасьці і свабодзе ў сьвеце. Кіраўнік Тэзэ — гаспадар зьезду, выявіў шчырае прызнаньне для моладзі і пажадаў, каб падобныя спатканьні моладзі маглі адбывацца ў цэлым сьвеце.

## СУСЬВЕТНАЯ РАДА ЦЭРКВАЎ

Нядаўна адбылася чарговая яе канфэрэнцыя ў заходнім Бэрліне. Ў канчатковай сваей рэзалюцыі яна выказала сваё жаданьне і надалей супрацоўнічаць з Каталіцкай Царквой. Была прынята прапанова заснаваньня сталай мяшанай Камісіі з прадстаўнікоў Рады і Каталіцкай Царквы. Адной з мэтаў гэтай Камісіі ёсьць цясьнейшая супраца хрысьціян між сабою.

## ВЯЛІКАЯ КОЛЬКАСЬЦЬ МОВАЎ

Біскупская Канфэрэнцыя Ўсходняй Афрыкі падала да ведама, што ў чатырох краінах, менавіта ў Замбіі, Кэніі, Угандзе і Танзаніі існуе аж 279 моваў і дыялектаў. Зь іх 109 маюць пераклад Бібліі.

## КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА Ў ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ АМЭРЫКІ

З апошня праведзенай статыстыкі для ўжытку мясцовай Біскупскай Канфэрэнцыі маемо наступныя дадзеныя з дзейнасьці Каталіцкай Царквы. Усіх каталікоў налічваецца каля 48 мільёнаў. Розныя каталіцкія установы ўтрымоўваюць 688 шпіталяў і 110 клінік, у якіх у мінулым годзе лячылася 27 мільёнаў пацыентаў. Каталіцкае школьніцтва: 258 калегіяў і вышэйшых інстытутаў; 17002 сярэдніх школаў і 867 пачатковых, у якіх вучылася 9,3 мільёнаў вучняў і студэнтаў, а што становіць 48% усей моладзі. Каталіцкіх сьвятароў налічваецца 57 000, законьніцаў — 144 000, законьнікаў братоў — больш 9.000. Найвялікшай кат. дыяцэзіяй ёсьць Чыкагская, якая налічвае 2,7 мільёнаў вернікаў.

## ЭПІДЭМІЯ АБОРТАЎ ВА ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЕ І СУПРАЦЬДЗЕЯНЬНІ

Ангельскі каталіцкі тыднёвік «Дзэ Таблет» (21. 9. 1974) падае некаторыя весткі аб абортах у краінах усходняй Эўропы. Весткі гэтыя ў сваю чаргу падало радыё ўсходняй Нямеччыны. І так у Мадзяршчыне прапорцыя народзінаў і абортаў: 100 : 140. У Польшчы ў адным годзе было 300 000 абортаў, у Югаславіі — 200 000 («легальных»). У Савецкім Саюзе афіцыяльна падаецца 7,5 мільёнаў, зь якіх 15% выконваецца навонкі шпіталяў.

Аборты гэтакіх разьмераў ня могуць ня выклікаць супраціву. У Польшчы перадусім змагаюцца з гэтай маральнай хваробай Біскупы і сьвятары. Але таксама дахтары і людзі сьвецкія пачынаюць выступаць супроць. Прыкладам др. Імрэ Гіршэль у Мадяршчыне, ведамы гінаколог, аборты назваў зьнявагай у сыстэме аховы здароўя. Таму і ўрады пачынаюць праўна і практычна абмяжоўваць аборты.

Каталіцкая Царква заўсёды бараніла жыцьця зусім нявінаватых ва ўлоньні маткі пачатых дзяцей. Апошнім часам Кангрэгацыя для Навукі і веры (перш называлася Сьв. Оффіцыюм) выдала Дэкларацыю (18. XI. 1974), у якой выясьняе каталіцкае навучаньне ў справе абортаў. Калісьці хрысьціянскі пісьменьнік Тэртуліян сказаў: «Той, хто будзе чалавекам — ужо ім ёсьць». Гэта паказвае, што незалежна ад вырашэньня пытаньня: калі душа лучыцца з людзкім эмбрыёнам, ці ад хвіліны пачацьця ці пазьней — маральны абавязак маткі і ўсіх іншых асоб непахісны — захаваць людзкое жыцьцё.

## ДЗЬВЕ КАНФЭРЭНЦЫІ: ПРАВА НА ЖЫЦЬЦЁ І ПАТРЭБА ХЛЕБА

Нядаўна адбыліся дзьве міжнародныя канфэрэнцыі: на пачатку лістапада ў Рыме і ў палове жніўня ў Букарэшце. У абедзьвюх прыймалі удзел і прадстаўнікі Апостальскага Пасаду.

На канфэрэнцыі ў Букарэшце разглядалася праблема надмернага узросту насельніцтва, асабліва важная і цяжкая справа ў краінах недаразьвітых індустрыяльна. Некаторыя удзельнікі налягалі, каб у цэлым сьвеце ўвясьці прымусовы кантроль народжаньняў. Прадстаўнікі недаразьвітых індустрыяльна краёў гэтаму супраціўіліся. Яны выказалі жаданьне большай дапамогі з боку багатых краёў. Папскі дэлегат згадзіўся на такую рэгуляцыю народзінаў, якая не была-б у супярэчнасьці з Божым правам і з годнасьцю чалавека. Зрэшта ў першую чаргу самі бацькі павінны вырашаць ці мець дзяцей і сколькі. Ён таксама падтрымаў жаданьне бяднейшых краінаў у справе для іх дапамогі.

Канфэрэнцыя ў Рыме займалася перадусім справай выжываньня сьвету, а таксама з зьвязанымі зь ёй праблемамі павялічэньня харчавых запасаў і рацыянальнага іх раздзяленьня. Др. Кіссынджэр у сваей прамове зьвярнуў увагу на факт хуткага вычэрпваньня харчавых рэсурсаў у сьвеце. Можа дайсьці да таго, што недахоп хлеба адчуюць і разьвітыя краі. Ён запрапанаваў, каб усе багацейшыя краіны, улучна з арабскімі, якія цяпер маюць грошы з продажы нафты, стварылі супольны фонд на пракармленьне бедных. Сам запрапанаваў ад імя Зл. Штатаў Амэрыкі даволі значную суму на гэты фонд. Толькі некаторыя арабскія прадстаўнікі згадзіліся падтрымаць прапанову, большасьць адмовілася ад фонду, зваліваючы віну за цяперашні крызыс у харчох і за голад на заходнія індустрыяльныя дзяржавы.

У выніку спрэчак быў заснаваны міжнародны фонд на закуп харчоў і на палепшаньне земляробства ў небагатых краях. Таксама была створана Камісія для пракармленьня сьвету.

Павал VI прыняў на аўдыенцыі удзельнікаў рымскай канфэрэнцыі. Ён прыпомніў аб маральным абавязку багатых дапамагаць бяднейшым, а таксама адзначыў, што багацтвы сьвету належаць да ўжытку ўсіх людзей. Ня можна — паводле Папы Паўла VI — эканамічна бяднейшым краінам накінуць кантролі народзінаў, бо гэта выглядала-б на нейкага роду вайну зь імі, у якой нішчылася-б насельніцтва і тады не было-б патрэбы дзяліцца з ім хлебам.

## З беларускага жыцьця

### З ДЗЕЙНАСЬЦІ СЬВЯТАРОЎ

Айцец др. Робэрт Тамушанскі дня 29 кастрычніка г. г. выехаў зь Лёндану ў Рым і працуе цяпер у ватыканскім радыё — беларуская сэкцыя. Кіраўніком гэтай сэкцыі ёсьць а. Архімандрыт Леў.

6 лістапада 1974 выехаў на нейкі час у Злучаныя Штаты Амэрыкі а. Язэп Гэрмановіч, рэдактар нашага часапісу. (Глядзі: Да нас пішуць). Спачатку затрымаўся ён у Чыкаго. Мае намер адведаць сваякоў і прыяцеляў таксама ў іншых мясцох.

24 лістапада 1974 г. адляцеў самалётам з Лёндану ў Ню Ёрк а. Александар Надсон. Гэта ёсьць ягоная першая паездка за акіян. Там ён мае шмат сяброў і знаёмых. Між іншым ёсьць запрошаны Бел. Інстытутам Навукі і Мастацтва прачытаць даклад, а таксама адведае іншыя беларускія і амэрыканскія ўстановы.

### IX-Ы ГАДАВЫ КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў ЛЁНДАНЕ

14 лістапада 1974 г. у залі Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Др. Францішка Скарыны лекцыяй Біскупа Ч. Сіповіча распачаўся IX-ы з чаргі курс беларусаведы, арганізаваны Ангельска-Беларускім Таварыствам. Адчыніў курс сп. Я. Джоліф, старшыня Таварыства. На пачатку быў прыняты у сябры Таварыства граф. Робэрт Оті. Пасьля чытаў лекцыю Біскуп Ч. Сіповіч на тэму: «Славянска-лацінскі манускрыпт XVII-га ст. Літургіі Сьв. Яна Хрызастома». Цікавы гэты рукапіс трапіў у Бел. Бібліятэку ў Лёндане з ліцытацыі. У 1652 г. Біскуп Тодар Скуміновіч, віленскі суфраган для Беларусі, падарыў яго царкве Айцоў Базыльянаў у Рыме. Цікавым зьяўляецца рукапіс для вучоных дзеля характэрнага беларускага скорапісу, дзеля арфаграфіі вельмі «паступовай», а перадусім ён мае асаблівую вартасьць для літургістаў, г. зн. для сьвятароў і вучоных, якія займаюцца гісторыяй сьв. Літургіі на землях В. Княства Літоўскага.

### У СЯМ'І БІСКУПА Ч. СІПОВІЧА

Прышла вестка з БССР, што 25 кастрычніка 1974 г. у вёсцы Дзедзіна, мёрскага раёну, памёрла Ядвіга Сіповіч, маці Біскупа, пражыўшы 84 гады. Ядвіга радзілася у вёсцы Мілашова ў 1890 годзе. Яе бацькі Антон і Марцыяна (з дому Садоўская) Тычкі былі малазямельнымі сялянамі. Хадзіла ў пачатковую расейскую школу. Яе настаўнікам быў нейкі Смарыга. Пасьля служыла ў паноў Мілашаў і там навучылася кулінарнага мастацтва і польскай мовы. Бачна ад сваей маці усвоіла іншага роду мастацтва: як ткаць прыгожыя палотны і дзяружкі. З гэтых адна трапіла ў Бел. Лёнданскі Музэй. У 1912 г. Ядвіга Тычка вышла замуж за Вінцэся Сіповіча. У час першай вайны мелі невялікую крамку. Ядвіга мусіла цяжка працаваць, асабліва, калі мужа рознага роду арміі забіралі ў падводы разам з канём і хамутом. Пасьля вайны жылі пад Польшчай, а пасьля другой сусьветнай вайны ў БССР. Вінцэсь Сіповіч памёр 13 сакавіка 1957 г.

Аб Сіповічах, бацькох Біскупа, трэба сказаць, што былі глыбока веруючымі хрысьціянамі і шчырымі беларусамі. У іхняй хаце былі гасьцьмі кс. др. Ільдэфонс Бобіч (з той самай вёскі), ксяндзы беларусы Цыпрыян Лазоўскі, Міхась Борык, Язэп Гайлевіч, Язэп Гэрмановіч і іншыя. Сюды прыходзіла «Беларуская Крыніца», якую



СЬВ. ПАМЯЦІ ЯДВІГА СІПОВІЧ
(1890—1974)

чыталася пры цьмянай карасінавай лямпачцы. Вёска Дзедзіна была акружаная з усіх старон польскімі асаднікамі «культуртрэгарамі», але яна нічуць нятолькі не апалячылася, але жонкі і дзеці асаднікаў былі змушаныя пасыўным апорам беларусаў гутарыць па-беларуску.

Калі ў 1938 г. польскія ўлады, зышоўшыя зусім з глузду, вывозілі сіламоц друйскіх сьвятароў і клерыкаў Марыянаў, тады паліцыя дакучала і бацьком цяперашняга Біскупа. Аднойчы паліцыянт так зьвярнуўся да Ядвігі Сіповіч: «Які-жа ваш сын беларус, калі вы палякі». На гэта яна адказала: «Мы каталікі, але не палякі!».

Сьв. памяці Ядвіга Сіповіч пакінула адну дачку і чатырох сыноў. Адзін з іх у гэтым годзе абараніў навуковую працу у пазнаньскім унівэрсытэце на ступень доктара пэдагогікі.

## 54-Я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

30 лістапада 1974 г. ў залі школы сьв. Кірылы Тураўскага адбылася акадэмія з нагоды 54-х угодкаў слуцкага паўстаньня, ладжаная лёнданскім аддзелам ЗБВБ. Акадэмія распачалася кароткай малітвай за памёршых беларускіх жаўнераў ва ўсіх войнах. Пасьля сп. А. Здановіч зрабіў даклад, у якім паказаў гераізм случчакоў на фоне тагочасных падзеяў. Дзякуючы глыбейшай аналізе розных гістарычных фактаў даклад стаўся арыгінальным і цікавым. Сп. Я. Міхалюк падзяліўся з прысутнымі сваімі ўспамінамі аб кап. Сокал-Кутылоўскім. Ён таксама паведаміў аб нядаўнай сьмерці Гарэліка, шчырага беларуса і дзейнага сябры аддзелу ЗБВБ ў Манчэстар. Усе супольна адсьпявалі: «Сьпі пад курганам гэрояў». Акадэміяй кіраваў сп. Я. Саўковіч, Старшыня лёнданскага аддзелу ЗБВБ, які падзякаваў усім за прыбыцьцё і запрасіў на гарбату.

## БІСКУПУ ЧЭСЛАВУ СІПОВІЧУ СПОЎНІЛАСА 60 ГАДОЎ ЖЫЦЬЦЯ

8 сьнежня 1974 г. Біскупу Ч. Сіповічу, Апостальськаму Візытатару Беларусаў, споўнілася 60 гадоў жыцьця. З гэтай нагоды віталі яго сябры і знаёмыя з розных старон. Галоўная Управа і лёнданскі аддзел ЗБВБ зладзілі пачэсны абед, у часе якога было сказана шмат цёплых слоў па адрасу Ўладыкі.

УСІМ ТЫМ, ХТО ВІНШАВАЎ МЯНЕ З НАГОДЫ 60-ГОДЗЬДЗЕМ З ДНЯ НАРАДЖЕНЬНЯ, ПЕРАСЫЛАЮ ШЧЫРУЮ ПАДЗЯКУ І ПАСТЫРСКАЕ БАГАСЛАЎЛЕНЬНЕ.

† Ч. СІПОВІЧ
Апост. Віз. Беларусаў

## *Пішуць да нас*

Дарагія Чытачы!

Самалётам у Амэрыку адляцеў з лёнданскага лётнішча роўна а гадз. 2 п. м. Пачалі мы падымацца і аказаліся ў густой імгле. Праўда, толькі нам так здавалася, але гэта былі хмары, бо пасьля мы прабілі іх і ўзьнесьліся туды, дзе панавала сонца. Тады хмары здаваліся пакрытыя сьнегам, падобным да зімовага, ў якім рысаваліся розныя віды нашай беларускай зімы. Мамэнтам былі такія падманлівыя, што бачыў я зарысаваныя сьляды саняў на дарозе разбітыя і зблутаныя ў розных напрамках. Але мы ўзносіліся звыш хмараў спакойна і маестатычна, вытрывала аж да пэўнасьці, што нясёмся сваей тэхнікай і сілай, хоць-жа гэта была толькі магутнасьць Найвышэйшага. Часамі пялёнка суцэльная хмараў прарывалася і нас зводзілі іншыя абразы: здавалася бачу на гарызонце прорвы-даліны, а за імі сьнежныя горы і лясы, дый ізноў густая імгла закрывала увесь далягляд з маей правай стараны, калі левы бок быў заліты сонцам.

— Перайду лепш туды! — падумаў я, бо вольнае месца ў іх.

Але там так асьляпіла мяне сонца, што аж рэзала вочы. Вярнуўся назад і мусіў трымаць заплюшчаны ўзрок праз доўгія хвіліны. Ўнізу ня было відаць ні Атлянтыку й нічога больш — аж да канца падарожжы, акрамя розных канфігурацыяў сьнегавога пад намі покрыва.

У самалёце, калі мы ўзносіліся праз хмары, я якраз адмаўляў ражанец і затрымаўся над тайнай, што Хрыстос узносіўся ў неба і тады паказаліся Апосталам два анёлы ў белым адзеньні; а ля майго месца была кухня й выйшлі два кухары ў белых кіцелях і дзьве прыслужніцы (стюардэскі) адзетыя ў бел-чырвона-белую вопратку... Па абедзе, дзеля публікі, закрылі вокны, бо ўсе зьляглі спаць на запасных месцах. Пасажыраў ня было шмат; над намі загарэліся чырвоныя агні нападабенства чырвоных языкоў над Апосталамі, калі зыйшоў на іх Сьв. Дух, аб чым я цяпер разважаю.

Я-ж сам адмовіўся ад яды ў дарозе, бо й Апосталы маліліся і пасьцілі перад Зялёнымі Сьвяткамі.

Пасярод Атлянтыку самалёт добра патузаўся, а перад Амэрыкай пахіляўся ўправа-ўлева, аднак не страшна й не трывожна. Прыляцеў у Чыкаго а гадз. 10.30, г. зн. ляцеў восем гадзін з паловай. Мяне акружылі нэгры урадоўцы і чамусьці таргаваліся, што я дамагаўся шасьцімесячнага пабыту. Я не ўступаў і яны згадзіліся. Айцец Уладзімір Тарасэвіч мяне спаткаў і завёз на Фульлертон Авэню, нр. 3107. Мой гадзіньнік паказваў 12 гадзіну ночы па лёнданскаму, а тут была 6 вечарам. Ужо я гаманіў тэлефонам з Ч. і мадам М—ч. Я чуюся добра, толькі крыху круцілася галава.

Паклоны ўсім чытачам.

а. Я. Гэрмановіч
Рэдактар «Б. Ш.»

Чыкага, 7 лістапада 1974.

...Як там справа з цукрам? Мабыць туга. Я з вамі за кампанію п'ю каву з малаком без цукру. Наш урад (аўстралійскі) мае Вам падарыць некалькі мараплаваў з цукрам, толькі калі гэта будзе? Далейшая мая падарож выглядала так: затрымаўся праз паўтара тыдня ў Канадзе ў А., адтуль паехаў у Чыкага. Быў у царкве а. Тарасэвіча, бачыў мазаіку Шагаля, спаткаўся з суродзічамі... Два дні адгуляў у Лос Анджэлес у сп-ва В. і Ст. «Обрэтошася» наканец дома толькі з 5 далярамі! Аўстралія прывітала мяне безрабоціцай і дарагоўляй. Каляды тут будуць для многіх ня вельмі вясёлымі. — Усе кніжкі, якія я выслаў ад Вас зьявіліся «на базу» уключна з 20 эгзэмплярамі «Like Water, Like Fire».

Вельмі дзякую за кніжкі. Мая маленькая бібліятэчка узбагацілася, асабліва рэчы мастацкага характару вельмі нам тут патрэбныя для выставак у будучыні. Даражу імі як памяткаю ад Вас. Пры нагодзе дастану і перашлю Вам 2—3 сярэбраныя манэты Жыгімонта III. Іх уласьнікі згадзіліся ахвяраваць іх на наш Музэй. — Дай, Божа, усім Вам здароўя, у цёплай хаце зімаваць і спатыкацца на Каляды хоць у думках. Спары Вам, Божа, ў Вашай працы!

З шацункам і любоўю Ар-дзь і сям'я.

Сыднэй, 21 лістапада 1974.

# На кніжнай паліцы

ЗАПІСЫ, нр. 12, Ню Ёрк, 1974, стр. 160. Выданьне Бел. Інстытуту Навукі і Мастацтва. — Зьмягшчае навуковыя артыкулы В. Тумаша, Я. Запрудніка, Вольгі Арэхвы, В. Кіпеля, Т. Вашука. Падае крытычны агляд кніг А. К. Антановіча, Е. Л. Неміроўскага і інш. Асаблівую увагу прыцягвае артыкул Тодара Вашука: «Крыж Сьвятсе Афрасіні. Дакумэнты і факты». У першыню падаюцца дакуманты-акты аб забраньні Крыжа сьв. Эўфрасіні з Бел. Дзярж. Музэю ў Менску ды перадачы яго ў Магілёў у 1929 г.

ЗВАЖАЙ, Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў. Нр. 1, лістапад 1974, Торонто. — Блізу ўвесь часапіс прысьвячаны першай сусьветнай Сустрэчы Бел. Вэтэранаў у Манчэстары, якая адбылася 17—18 жніўня 1974 г.

## БЕЛАРУСІКА Ў ПОЛЬСКАЙ МОВЕ

У Польшчы расьце цікавасьць да прыгожага беларускага творства. Паказваюць на гэта пераклады розных беларускіх аўтараў на польскую мову, як Брыля, Танка, Яновіча і інш. Тут успомнім толькі прыгожа аформленыя дзьве кніжкі і польскі часапіс «Поэз'я»:

Jan Huszcza, Wiersze białoruskie, Wydawnictwo Łódzkie, Łódź, 1971.

Maksim Bahdanowicz, Poezje Wybrane, Wydawnictwo Łódzkie, Łódź, 1973.

Jan Huszcza prezentujee poetów Radzieckiej Białorusi, Poezja, Wrzesień 1974, 46—60.

У першай кнізе маем пераклады 46 беларускіх паэтаў, разумеецца толькі некаторых іхніх твораў, пачынаючы ад Купалы, Коласа, Бядулі . . . , а канчаючы Яўгеніяй Янішчыц і Людмілай Забалоцкай. Цікавым ёсьць, што падаецца (стр. 261) аж 30 розных прозьвішчаў перакладчыкаў з беларускай на польскую мову. Гэта сьведчыць, што зацікаўленьне беларускай паэзіяй ня ёсьць нейкім выняткавым здарэньнем, або — як ангельцы кажуць — гоббі адной асобы. Гэтакая зьява, калі яшчэ і ня ёсьць агульна-польскай, дык выглядае, што яно ідзе ў тым кірунку. Такім чынам сучасная Польшча вырозьніваецца ад той перадваеннай, у якой зацікаўленасьць палякаў беларускай літэратурай была мінімальнай.

У кніжцы: «Выбраныя творы Максіма Багдановіча» надрукаваныя ўсе тыя самыя вершы паэта, якія знаходзяцца ў папярэдняй (Вершэ бялорускe), апрача таго шмат дайшло новых і даволі абшырны жыцьцяпіс М. Багдановіча, аўтарам якога ёсьць Ян Гушча.

У часапісе: «Поэз'я» зьмешчана пераклады семнаццаць сучасных беларускіх паэтаў, але звычайна адзін або найбольш два вершы таго самага паэта. Прозьвішчы паэтаў і іхнія творы прыведзены ў альфабэтным парадку: Арочка, Барадулін, Цьвірка, Іпатава, Янішчыц, Кірэенка, Куляшоў, Пысін, Панчанка, Русецкі, Сіпакоў, Сьвірка, Танк, Ніна Тарас, Вярцінскі, Зарыцкі, Зуёнак. (Паводле польскага альфабэту). Аб кожным у канцы падаецца кароткая даведка, калі радзіўся, чым займаецца і якія выдаў творы. — Выдавецтва часапісу: «Поэз'я» ў Варшаве, а друкуецца ў Лодзі ў колькасьці 11 000 экз.

## КНІГІ СКАРЫНЫ Ў ЗАКАРПАЦЬЦІ

Хаця ўжо няраз падавалася ў розных часопісах і газэтах аб нова-знойдзеных кнігах Бібліі Францішка Скарыны ў Закарпацьці, аднак весткі тыя былі занадта скупымі, каб зь іх можна было даведацца: што ў запраўднасьці знойдзена і ў якім стане? Крыху абшырней напісаў аб гэтым В. Л. Мікітась: Інкунабулы Францыска Скарыны ў Закарпацці, Матэрыялы першай навуковай канфэрэнцыі па вывучэньню беларуска-украінскіх літаратурных і фальклорных сувязей, Гомель, 1969, стр. 16—21. Вось між іншым што піша ўспомнены аўтар:

«Нядаўна ў фондах Закарпацкага дзяржаўнага краязнаўчага музея ўдалося знайсьці адзін з экземпляраў усім вядомай «Бібліі» Скарыны, пра што ўжо паведамлялася ў прэсе і ў асобных нашых выданьнях. Гэта «Біблія» друкавалася, як вядома, у Празе на працягу 1517—1519 гадоў і мае назву „Біблія руска, выложена доктором Франціском Скориною из славного града Полоцька, богу ко чти й людем посполитым к доброму научению". Наш музейны экземпляр мае 148 аркушаў або 296 старонак, пераплеценых у адну кнігу з кардоннай, пакрытай скураю вокладкой. Некаторыя аркушы, на жаль, бясследна прапалі, а некаторыя больш або менш пашкоджаны. Пачынаецца кніга з пашкоджанай і не зусім захаванай „Книги Исуса Навина", якая была надрукавана ў 1518 г.; на 43 і далейшых аркушах змешчана „Книга Судей"; на 89 аркушы „починается книга о Руфе", якія датуюцца 1519 г. Ёсць тут, зразумела, славутыя прадмовы і пасляслоўі Скарыны, добра захаваныя некаторыя гравюры і інш. Не маючы пад рукамі поўнага выдання „Бібліі" усіх трох гадоў (1517—1519), мы не змаглі супаставіць паўнаты і парадак брашураваньня ў закарпацкім экземпляры, хаця для даследчыкаў спадчыны Скарыны гэта вельмі важна, бо не так ужо і багата захавалася яго выданняў на Украіне і ў самой Беларусі.

Пра тое, як і калі трапіла на Закарпацце „Біблія" Ф. Скарыны, у нас няма звестак. Так званыя „краёвыя" запісы, розныя „пробы" пяра выцвілі і іх амаль немагчыма прачытаць. У той жа час тыя старажытныя запісы з'яўляюцца красназмоўным сведчаннем таго, што кніга карысталася вялікай папулярнасцю з найстаражытнейшых часоў. Магчыма, што яе прыдбалі яшчэ ў XVI ст. правіцелі Мукачыўскай праваслаўнай (потым грэка-каталіцкай) епархіі, якая была адзінай на тэрыторыі цяперашняга Закарпацця. У былой бібліятэцы Мукачыўскага епіскапства, якая ў канцы XVIII ст. была перанесена ў Ужгарад і цяпер складае аснову ўніверсітэцкай бібліятэкі, знаходзіліся на захаванні рэдкасныя кірылаўскія старадрукі-інкунабулы».

*Ч. С.*

# Дзеля цікавасьці і навукі

ЧАРЛЬ ЛІНДБЭРГ. Нарадзіўся 4. II. 1902 ў Дэтройце. 6-ці гадоў убачыў першы самалёт. Як падрастаў, дык плянаваў самому лятаць, але гэта доўга ня ўдавалася. Пасьля ўжо ставіў сабе задачу: «Я мог-бы пераляцець праз акіян». Ажно зьмяніў праект: «Я м у ш у пераляцець акіян!» І нарэшце ў 1927 г. здолеў даканаць першага лёту: ягоны шлях быў з лётнішча Нью Ерку ў Буржэ ў Францыі — 33 гадз. 30 м. Мусіў прамкнуцца праз буру і быў адзін на біпляне, аднаматорным самалёце. Уся Францыя сьпявала песьню: «Малады амэрыканец гэта зрабіў». Амэрыканскі прэзыдэнт надаў яму павышэньне ў чыне — з капітана на палкоўніка.

На жаль бацьку і на сорам усяму сьвету кіднапэры ўкрадлі ў Ліндбэрга малога сынка на выкуп: заплаціў ім 50 тысяч дал., аднак сынок у бандытаў згінуў. З другім сынком выехаў у Англію на даўжэйшы час. Слава яго грымела па ўсім сьвеце і за заслугі ў авіяцыі дастаў у Амэрыцы чын гэнэрал-маёра: нямала прычыніўся да перамогі авіяцыі ў вайне з Японіяй. Захварэў на рака крыві і памёр 24. VIII. 1974 г. на Гаваях і там пахаваны.

*

Г О Л А Д. «Пецярбург-Петраград-Ленінград» падчас II-ой сусьветнай вайны акружаны немцамі, але не здабыты, перажываў найстрашнейшы голад — ажно кралі людзей і рэзалі на мяса дый прадавалі . . .

Голад, бадай, самае страшнае, што чалавек можа перажываць на зямлі. У мэдыцыне называюць дыстрофіяй-хваробай і мае 4-ы ступені. Найлепш яе вывучылі ў Амэрыцы, самай сытай краіне . . . — Хочацца есьці, а няма чаго. І ў суседзяў няма, дык і ўкрасьці нельга. І голад у Ленінградзе не мае нічога падобнага з усіх часаў і краёў. Трэба мець жалезнае здароўе і моцную душу, каб устаяць перад голадам — дый усяму гораду хочацца есьці, але ўсяму гораду няма! А ў некаторых раёнах забракавала вады. Праходзяць хмарныя халодныя дні, падобныя адзін на другога, як тыя кусочкі пайкавага хлеба у 125 грамаў. І гэта усё, што можна было дастаць на дзень . . .

Жанчыны лягчэй пераносяць голад чым мужчыны, але няма нічога страшнейшага чым прамада галодных жанчын: ня дай Божа прагневаць іх і трапіць ім у рукі! Але лепш за усё — сьмерць: І сьмерць налятае з усюль: у пасьцелі, на сходах, на дварэ, у падваротні, у сталовай, але часьцей на вуліцы. У 1942 г. тысячы ў дзень, а пасьля дзесяткі тысяч. Таня Савіч запісала: «Жэня пам. 25. XII. 1941 г.

Бабушка — 25. 1. 1942 г., Лёня памёр 17. III, Дзядзя Ваня — 13. IV, Дзядзя Лёша — 10. V, Мама — 13. 5. — Памерлі ўсе, асталася адна Таня . . . ».

---

## *Гэрб — сымбаль*

*Зайшліся раз у вольнай волі,*
*Гуляючы на чыстым полі,*
*Гэрб царскі — птушка двухгалова*
*І гэрб камуны — цацка нова.*

*СЕРП-МОЛАТ кажа: «Птах ня просты*
*Ты-двухгаловы, аднахвосты».*
*АРОЛ сказаў: «А ты — крывуля,*
*Ні — зьвер, ні птушка. Ты — бядуля:*
*Жалезны малаток, а галава — квадрат,*
*Відаць, што розуму — ня шмат.*
*А ты — сярпок, жывот пусты,*
*Галоўка — малаток, пры гэтым два хвасты».*

*СЕРП-МОЛАТ: «Гэта — гэрб народу:*
*Саюз зьвязалі мы на згоду. —*
*Каваць мы будзем шчасьце вечна*
*І жаць пшаніцу бесканечна . . . ».*

*АРОЛ: «Саюз такі прамудры:*
*Ну, Троцкі доўгія меў кудлы,*
*А Ленін лысы быў як месяц, —*
*Жаль, ня было каму павесіць!*

*Вось Ленін з Троцкім так мудрылі,*
*Шах-мах, — цара ў расход пусьцілі*
*Дый зь генэраламі ў прыдачу —*
*Аж я дасюль па царстве плачу!»*

*СЕРП-МОЛАТ: «Звонка мы сьмяёмся —*
*За шчасьце для народу б'ёмся:*
*Сям'ю мы царскую прыбілі,*
*Савецкі рай мы насадзілі».*

*АРОЛ: «Наш цар, хоць біў людзей,*
*Камуна б'е іх гарачэй, —*
*Так глуміць, мучыць ці страляе —*
*Да Бога ў рай іх адпраўляе . . . »*

*СЕРП-МОЛАТ: «Гэта наша дзела —*
*Парадак свой вядзём мы сьмела:*
*Па горле рэзаў Серп паноў,*
*А Молат цісьнуў багачоў».*
*АРОЛ: «Вы масу простага народу*
*Згубілі, маючы нагоду:*
*Як рэвалюцыя прышла,*
*Бяда ў вас расла й расла». —*

*СЕРП-МОЛАТ: «Скуль усё ты знаеш?*
*Ты шпіянаж, відаць, спраўляеш...*
*Глядзі, як зробім скрозь разьведку,*
*Пасадзім жыва ў моцну клетку!»*
*На Калыму, ці на Камчатку,*
*Ці ў дом вар'яцкі на астатку! —*

*АРОЛ: «Я — птушка вольная паўсюдна:*
*Лавіць навінкі мне ня трудна,*
*Бо ваша радыё ў Маскве*
*Як соўк там вые ці раве».*

*СЕРП-МОЛАТ: «Серп ідзе ў папраўку,*
*Абодвым нам даюць адстаўку:*
*Пашлі камбайны дый машыны —*
*Аж хлеб загінуў з тэй прычыны!*
*Хрушч меў Амэрыку дагнаць, —*
*Рэформы беглі, сама-стройкі,*
*Народ наш аказаўся стойкі —*
*Ледзь мы Хрушча змаглі прагнаць!*

*Цяпер (гаворым на сумленьне)*
*Калгасаў робім адраджэньне:*
*Саюз вось-вось на ўсе гатоў. —*
*Не праліціць і сто гадоў, —*
*Мы запражом хоць і сто коняў,*
*Амэрыку скрозь перагонім!..*
*Глядзі ты й багачы пабачуць, —*
*Сэнат і прэзыдэнт заплачуць».*

*

*На гэтым кончылась размова.*
*Сьпісаў усё я слова — ў — слова.*

1\. X. 1974.
Лёндан.

Вінцук Адважны

---

# Для развагі нашых чытачоў

Усе чытачы «Божым Шляхам», якія прысылаюць рэгулярна за яго падпіску, ня толькі не астаюцца ў даўгу, але прысылаюць «з коптарам». За гэта мы ім вельмі, вельмі ўдзячныя. Ёсьць аднак і такія, што зусім ня плоцяць або вельмі рэдка. У наступным годзе ўсім тым, хто не прышле падпіскі, на жаль, будзем змушаныя наш часапіс стрымаць.

Кошты друку і разсылкі «Б. Шл.» у гадох 1968—1972 вынесьлі у амэрыканскай валюце: 22,717 дал. Хто не ляніцца, няхай крыху падумае: гэту даволі значную суму трэба было сабраць з падпісчыкаў і ахвярадаўцаў! Каб не было гэтых апошніх, наша выдавецтва даўным мусіла-б спыніцца. А кошты друку і пошты ўсьцяж узрастаюць. Вось канкрэтны паказьнік: першы нумар «Б.Шл.» за 1973 г. каштаваў: 270 анг. фунтаў (1875 ням. марак); наступны каштаваў: 301 анг. ф.; нр. 3-ці — 353 анг. ф.; нумар 3-ці за 1974 г. — 2070 ням. марак.

Наш часапіс мае за сабой 22 гадкі жыцьця. Было-б нам — а думаем што і нашым суродічам — жаль яго спыняць. Таму адміністрацыя «Б. Шл.» зьвяртаецца з гарачай просьбай да ўсіх дапамагчы ей прадоўжываць выдаваньне ў запроўднасьці адзінага такога часапісу.

Дзеля пажылых гадоў а. Язэпа Гэрмановіча і дзеля яго выезду на нейкі час у Злучаныя Штаты Амэрыкі, ветліва просім матер'ялы прызначаныя да друку, а таксама чэкі ці іншыя грашовыя разьлікі прысылаць на адрас:

Rev. F. Žurnia,
Marian House, Holden Ave.,
London, N. 12 8HY,
Gt. Britain.

---

## ДУМКІ ЛЮДЗЕЙ

ПАПА ЯН XIII пісаў у сваім Дзённіку:

(У кажнай справе) пачынаю нанава, якобы дасюль я нічога не зрабіў — абсалютна нічога.

Не пазваляць сабе хацябы й найлягчэйшай абмовы маіх таварышаў, маіх бліжніх.

Гаварыць мала, але добра.

Умець маўчаць, каб нікога ня зьневажыць і пазваляць вераб'ям — няхай цьвіркаюць.

Зраблю тое, што здолею зрабіць.

Я такі як тая птушка, што сьпявае ў цернях.

Крыху менш яды — пэўна мне зробіць добра.

Прыгожыя і вартасныя гады шыбка мінаюць.

Трэба ўмець так цярпець, каб не даць знаць па сабе, што церпіш.

Колькі гэта разоў у разгоне навукі пабожнасьць зыходзіць на другі плян... Бог не зважае на колькасьць учынкаў, але на спосаб, як яны былі дакананыя.

ЗЬМЕСТ:



Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14